БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

26 красавіка 1994 г.
Аўторак
№ 44 (13761)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

Малюе Віктар ДУБОВІК




## Рэха Чарнобыля

Не тужы, самотная бабуля,
што не прывячаюць дзеці хату,
шчодрыя іх рукі не прытуляць
і не стрэне брэхам пёс кудлаты.

Рэха вечнага людскога болю
рве зямлю тваю
сляпой ваўчыцай,
сее радыяцыю на полі,
хіжа труціць родныя крыніцы.

Ад расы жывой нямеюць ногі.
Глуха стогне кут здзічэлы гэты.
Плачуць на абочыне дарогі
чалавечымі слязьмі ранеты.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА.**



## Кур'ер "ЧЗ"

### Не ўсё так дрэнна...

*Да ліку пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС Петрыкаўшчына не адносіцца. Таму маляўнічыя мясціны над Прыпяццю не маглі не прывабіць жыхароў раёнаў, што вымушаны былі пакінуць родныя хаты ад наступу радыяцыі. Будаўнікі раёна і вобласці ў некалькіх вёсках узвялі для іх пасёлкі.*

За кошт сродкаў па чарнобыльскай праграме пабудаваны ФАПы ў васьмі вёсках. Жыхарам яшчэ чатырох свае паслугі прапанавалі новыя амбулаторыі.

Пры цэнтральнай раённай бальніцы пабудаваны акушэрскі корпус. Добрыя ўмовы для працы цяпер і медыкаў гарпасёлка Капаткевічы. Летась яны справілі наваселле ў новай бальніцы на 50 ложкаў і паліклініцы на 100 наведванняў у змену.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

### Патрэбна "легалізацыя" даходаў?

*Паводле экспертных ацэнак, цяпер "на руках" у нашых суайчыннікаў — простых грамадзян рэспублікі — знаходзіцца не менш як мільярд даляраў. Каб гэтыя немалыя грошы "запрацавалі" і дапамаглі беларускай эканоміцы, патрэбна іх "легалізацыя".*

Такі пункт гледжання на пытанне "валютных накапленняў" насельніцтва прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў Беларусі Уладзіміра Карагіна. Ён лічыць, што своеасаблівая "гаспадарчая амністыя", інакш кажучы, магчымасць людзей, якія маюць СКВ, свабодна ёю распараджацца, дасць магчымасць прыцягнуць дадатковыя інвестыцыі ў айчынную эканоміку. Азначаны падыход да праблемы мог бы стаць састаўной часткай у стварэнні сістэмы гарантый для ўнутраных і знешніх інвестараў.

### Падпісныя лісты "панеслі" ў народ

*Завяршыўся адзін з першых этапаў прэзідэнцкай выбарнай кампаніі на Беларусі — у нядзелю Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "падвяла рысу" пад рэгістрацыяй ініцыятыўных груп і грамадзян па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў на пасаду кіраўніка рэспублікі.*

Працэс фарміравання спісаў і, адпаведна, утварэння ініцыятыўных груп вызначаўся вялікай актыўнасцю з боку прадстаўнікоў розных палітычных плыняў. Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў 19 такіх груп, якія з учарашняга дня мусілі прыступіць непасрэдна да збору подпісаў у падтрымку таго ці іншага прэтэндэнта. Нагадаем, што для будучай магчымай рэгістрацыі кандыдата ў прэзідэнты, яго павінны падтрымаць не менш як 100 тысяч грамадзян Беларусі. Збор подпісаў працягнецца да 14 мая.

Пакуль што можна зазначыць: па колькасці ўяўных прэтэндэнтаў (маецца на ўвазе — тых, за каго гэтымі днямі нам будзе прапанавана паставіць асабіста роспіс на падпісаных лістах) рэспубліка ўстанавіла, бадай, "неафіцыйны" рэкорд.

І яшчэ адна з апошніх навін. Цэнтрвыбаркам прыняў сумесна з Саўмінам пастанову, у якой рэгламентуецца парадак выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі зарэгістраванымі кандыдатамі ў прэзідэнты.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Палітыкі едуць у Гродна

*Тры вядомыя палітычныя дзеячы апошнім часам адзін за адным наведалі Гродна. Гэта былы старшыня антыкарупцыйнай камісіі Аляксандр Лукашэнка, лідэр Народнага Фронта Зянон Пазняк і былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.*

Традыцыйныя абяцанні А.Лукашэнкі, які ў чарговы раз аб'явіў бой карупцыі на ўсіх узроўнях, былі прыхільна сустрэты аўдыторыяй, якая складалася ў асноўным з людзей сталага ўзросту.

Зянон Пазняк расказаў пра законапраекты палітычнага і эканамічнага характару, якія падрыхтаваны яго камандай і патрабуюць неадкладнага ажыццяўлення.

Станіслаў Шушкевіч, лідэр блока "Вясна-94", ужо ў другі раз за апошнія месяцы пазнаёміў гродзенцаў са сваёй платформай, у аснове якой — дэмакратыя ў палітыцы і развіццё рынкачнай эканомікі.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Вяртанне "магілёўскай даўніны"

*Багатую гісторыю старажытнага Магілёва і ўсяго прыдняпроўскага краю ўзяўся аднавіць новы гісторыка-краязнаўчы часопіс "Магілёўская даўніна", першы нумар якога ўбачыў свет.*

Новае выданне стала своеасаблівым нашчадкам часопіса, які выходзіў у Магілёве ў 1898—1903 гадах пад рэдакцыяй вядомага вучонага Еўдакіма Раманава. Тады ўдалося выпусціць усяго тры зборнікі. Цяпер жа выданне будзе выходзіць адзін раз у квартал. Акрамя гістарычных, геаграфічных, краязнаўчых матэрыялаў, плануецца публікацыя метадычных распрацовак для настаўнікаў.

Фінансавалі выпуск "Магілёўскай даўніны" мясцовыя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі. Аформіць выданне дапамаглі прафесіянальныя мастакі і навучэнцы педагагічнага каледжа.

### Гонкі для Беларусі

*У Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча журналістаў з кіраўнікамі нямецка-беларускага праекта "Гонкі для Беларусі", прынятага год таму з мэтай дапамагчы маладым таленавітым беларускім аўтагоншчыкам. Праект падтрымліваецца вядомымі замежнымі фірмамі "БМВ", "Кастроль", "Бош" і іншымі.*

Праграма праекта выконваецца на базе сумеснага прадпрыемства "Йак-аўтамабільныя тэхналогіі" і ахоплівае як распрацоўку і канструяванне вузлоў і запасных частак да спартыўных аўтамабіляў, так і стварэнне гоначных машын поўнасцю, выпуск у малых і сярэдніх серыях канструкцый і вырабаў па дакументацыі заказчыка, вытворчасць прататыпаў.

**БЕЛІНФАРМ.**

### "Адваявалі" ў камерсантаў

*Яшчэ зусім нядаўна старое памяшканне Чысцінскай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна займалі адразу некалькі камерцыйных структур. Цяпер будынак вернуты дзецям — тут размясцілася дзіцячая музычная школа.*

А ў бліжэйшы час у гэтым жа памяшканні плануецца адкрыць і школу мастацтваў. Канчатковая мэта мясцовых улад — стварэнне эстэтычнага цэнтра.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**




Пашыраюцца міжнародныя кантакты Беларусі ў галіне экалогіі. Так, наша рэспубліка ўпершыню ўзяла ўдзел у традыцыйным "Міжнародным зялёным тыдні" ў Берліне.

НА ЗДЫМКУ: прадстаўнік Беларусі Наталля Юдзіна знаёміць наведвальнікаў з прадукцыяй нашых прадпрыемстваў.

**Фота агенцтва "Інтэр Нэйшэнз".**

### Курсы валют на 25 красавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 14500 | 15060 | 8570 | 8910 |
| "Пошук" | 14500 | 15000 | 8400 | 8650 |
| "Белбізнесбанк" | 14100 | 15800 | 8500 | 9100 |

## Радыяцыйны попел на сэрцы

□ **Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"**

*Чарнобыль і звязаная з ім бяда змусілі займацца восем гадоў назад людзей тым, чым ніколі не займаліся раней, — ліквідацыяй вынікаў катастрофы. Для каардынацыі дзеянняў былі створаны і адпаведныя структуры. У прыватнасці, Дзяржаўны камітэт па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Работа ў вызначаным напрамку вядзецца сёння і невядома, калі ёй будзе канец. Аб задачах і праблемах наш карэспандэнт гутарыць з намеснікам старшыні Дзяржкамчарнобыля М.М.Маркоўскім.*

**— Мікалай Мартынавіч, колькі фінансавых сродкаў выдзелена пад праграму на сёлетні год, як яны размеркаваны?**

— Усе мы ведаем, якая бяда звалілася на нашы галовы. Разумеюць гэта і ў Вярхоўным Савеце, і ва ўрадзе, але ў сувязі з тым, што былі перарваны былыя сувязі, пагоршыўся стан у эканоміцы рэспублікі, цалкам атрымаць столькі фінансава-матэрыяльных сродкаў, колькі пажадана мець, вядома ж, не атрымліваецца. Усяго, у прыватнасці, на бягучы год выдзелена 12 працэнтаў з расходнай часткі рэспубліканскага бюджэту, а гэта 1 трыльён 620 мільярдаў рублёў. Грошы размеркаваны наступным чынам. 975 мільярдаў будзе зрасходавана на капітальныя ўкладанні (будаўніцтва жылля для перасяленцаў, добраўпарадкаванне раней створаных пасёлкаў, шляхам стварэння адпаведнай інфраструктуры, бытоўкі). Другая частка пойдзе на паляпшэнне ўмоў жыцця тых грамадзян, якія па-ранейшаму пражываюць у зонах адсялення. Тут і правядзенне ахоўных мерапрыемстваў (асфальтаванне дарог, будаўніцтва водаправодаў, лазняў, душавых, пунктаў дэзактывацыі) і іншыя мерапрыемствы.

Значная сума (а менавіта 511 мільярдаў рублёў) прызначана на выкананне закону "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС". У ліку мерапрыемстваў: аздараўленне насельніцтва, кампенсацыя і льготы ўдзельнікам ліквідацыі аварыі. У прыватнасці,



станоўча вырашана пытанне аб выплаце пенсіі той катэгорыі грамадзян, якія прымалі непасрэдны ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі. Акрамя таго, намі вынесена ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прадстаўленне аб паэтапнай выплаце пенсіі ў перспектыве асобам, якія былі эвакуіраваны з зоны, а таксама з зон першачарговага і наступных адсяленняў. Сродкі на гэтыя мэты таксама ідуць з расходнай часткі бюджэту.

55 мільярдаў рублёў выдзелена на мэтавыя мерапрыемствы і навуковыя праграмы.

**— Наколькі, на ваш погляд, трэба павялічыць расходную частку рэспубліканскага бюджэту, каб цалкам задавальняць штогод патрэбы на ліквідацыю вынікаў катастрофы?**

— Трэба мець прыкладна ў 2—2,5 раза больш, альбо 40 працэнтаў расходнай часткі бюджэту. Бо сёння мы фактычна адчуваем востры дэфіцыт пад выкананне жыццёва важных артыкулаў: у прыватнасці, праграмы па капітальнаму будаўніцтву, на аздараўленне насельніцтва і правядзенне ахоўных мерапрыемстваў у аграпрамысловым комплексе. Але, як вы разумееце, столькі выдзеліць дзяржава проста не мае магчымасці.

**— Мікалай Мартынавіч, пытанне крыху не па тэме: як вы ставіцеся да праблем будаўніцтва на тэрыторыі рэспублікі атамных электрастанцый?**

— Я на гэты конт маю спрэчную думку. Канешне, без электраэнергіі нам не абысціся. Аднак будаваць яшчэ адзін Чарнобыль, відаць, не варта, улічваючы тую акалічнасць, што і так мы з усіх бакоў "абвешаны" імі: Ровенская, Смаленская, Ігналінская... Крый Бог парушыць тэхналогію эксплуатацыі, як, дарэчы, здарылася і на ЧАЭС, і нас зноў засыпле радыяцыйным попелам. Тут хаця б ад гэтага ачысціцца.

**— У народзе бытуе думка, што быццам заходнія краіны наважваліся нам дапамагчы пазбавіцца вынікаў катастрофы, а наш урад, нібыта, адмовіўся.**

— Свет яшчэ не выпрацаваў такой тэхналогіі, скарыстаўшы якую можна было б ачысціць лясныя масівы, сельскагаспадарчыя тэрыторыі ад радыенуклідаў і пасля ўзнаўляць там бяспечна для здароўя весці земляробства, збіраць ягады і грыбы.

— Адмаўляцца ад дапамогі ніхто не збіраецца. Наадварот, трэба падзякаваць тым, хто шчыра жадае нам дабра. Захад пастаўляе ў Беларусь дыягнастычнае медыцынскае абсталяванне, лекавыя прэпараты. Але ж спадзявацца толькі на замежныя краіны мы не збіраемся. Відаць, такі ў беларусаў лёс, што ім наканавана вытрымаць яшчэ адно выпрабаванне. Таму аб сабе і сваіх дзецях нам трэба паклапаціцца самім.

**ПАДЗЕІ ТЫДНЯ**

## У жыцці нічога новага, хаця ўсе чакаюць перамен

□ **Андрэй ВАСІЛЕВІЧ**

Нічога прынцыпова новага за мінулы тыдзень не адбылося. Хіба што здзіўлялі грамадскую думку тыя, хто адважыўся паспытаць шчасця ў пошуках шляхоў да самага высокага крэсла на Беларусі. Апошнія звесткі ўражваюць: спіс кандыдатаў у правадыры ўсё павялічваецца, і мы можам мець каля дваццаці шукальнікаў подпісаў грамадзян. Выбар, як бачна, вялікі, але ці разнастайны ён, ці будзе з каго выбіраць, каб не мучыла сумненне, ці за таго аддаю свой голас? Пытанне з разраду тых, што лунаюць у паветры, але адказу на яго пакуль што няма — некаторыя кандыдаты маўчаць, некаторыя вядуць лёгкую разведку, некаторыя пайшлі ў актыўны наступ.

У больш выйгрышным становішчы знаходзіцца Вячаслаў Кебіч. Зразумела, чалавек з вяршыні ўладавай піраміды валодае не толькі словам, за якім яму не трэба лезці ў кішэню, але і мае ў распараджэнні тое-сёе з бюджэтнай кішэні.

Так, пад час сустрэчы з участковымі інспектарамі прэм'ер-міністр паспрабаваў усцешыць суровыя міліцэйскія душы. Вячаслаў Кебіч сказаў, што разумее цяжкасць іх працы, што зарплата не адпавядае занятасці.

Урад таксама прыняў рашэнне замарозіць кватэрную плату, прынамсі, так паведамілі ўрадавыя крыніцы інфармацыі.

На мінулым тыдні правёў прэс-канферэнцыю старшыня пастаяннай камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета Дзмітрый Булахаў. Афіцыйная нагода для сустрэчы з прэсай — папярэдняе вылучэнне членаў Канстытуцыйнага суда (дарэчы, для яго выбараў збіраецца нечарговая сесія Вярхоўнага Савета). Сярод магчымых кандыдатаў называюцца такія прозвішчы, як доктар юрыдычных навук, дэпутат Валерый Ціхіня, загадчык юрыдычнага аддзела Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рыгор Васілевіч, намеснік міністра юстыцыі Валянціна Падгруша і іншыя. Сам Дзмітрый Булахаў адвёў сваю кандыдатуру. Справа ў тым, што ідзе пошук прэтэндэнтаў на пасады суддзяў, а старшыню суда вылучыць будучы прэзідэнт. Зразумела, што ў выпадку перамогі Аляксандра Лукашэнкі (член Прэзідыума Булахаў узначальвае яго ініцыятыўную групу па збору подпісаў), лёгка прагназіраваць выбар.

Працягваюцца жорсткія спрэчкі вакол дагавора з Расіяй па аб'яднанню грашовых сістэм. Пасля абвінавачвання Вячаслава Кебіча ў парушэнні толькі што прынятай Канстытуцыі, прэм'ер-міністр вымушаны быў заявіць аб звароце да Барыса Ельцына з просьбай змякчыць тэкст дагавора, не настойваць на ліквідацыі Нацыянальнага банка Беларусі, каб не было патрэбы перагляду Канстытуцыі.

У расійскіх палітычных колах адна з хвалюючых тэм — дасягненне грамадзянскай згоды. Ваяўнічыя колы рыхтуюцца вывесці на вуліцы людзей зусім не для таго, каб выкрыкваць хвалу ў адрас Ельцына і Чарнамырдзіна.

Але гэта толькі кветачкі... Уладзімір Жырыноўскі — напрамую выкладвае свой план стварэння Мінскай губерні са старонак газеты "Известия". Прыпомніце, колькі галасоў аддалі расіяне за гэтага палітыка, якому хочацца накіраваць полчышчы да Індыйскага акіяна.

Што Жырыноўскі! У маскоўскіх газетах, напрыклад, у такой папулярнай, як "Аргументы и факты", лідэр расійскіх нацыстаў Баркашоў гаворыць аб сваіх поглядах, аб сваіх сувязях з германскімі неанацыстамі.

Як і неба не заўсёды хмарнае, так і жыццё не з адных непрыемнасцей. На мінулым тыдні адбыўся паўфінал конкурсу песні "Маладзечна-94". Гэта было цудоўнае відовішча, парад таленавітай моладзі. Вядомы маэстра Міхаіл Фінберг падзяліўся сваёй радасцю. Мастацкі ўзровень конкурсу ў параўнанні з мінулым годам значна ўзрос. Арганізатары фестывалю на чале з народным дэпутатам Генадзем Карпенкам робяць вялікую справу — адраджаюць беларускую песню, спрыяюць беларускай паэзіі. Моладзь убачыла, што таленты маюць выхад да гледача, — і шчыра дорыць людзям прыгажосць.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "TV-5"

### Уорэн Крыстафер – у Швейцарыі

*Пачалася паездка Дзяржаўнага сакратара Злучаных Штатаў Уорэна Крыстафера па краінах Еўропы і Блізкага Усходу.*

Сёння Уорэн Крыстафер знаходзіцца ў Швейцарыі. У Жэневе адбудзецца яго сустрэча з міністрам замежных спраў Расіі Андрэем Козыравым. У цэнтры ўвагі іх гутаркі — урэгуляванне баснійскага крызісу.

### Ахвяра прыроды

*На поўдні Егіпта нарадзілася дзяўчынка з 10-сантыметровым хвосцікам. Яе фотаздымкі абышлі ўсе егіпецкія газеты.*

На думку ўрачоў, такая анамалія выклікана, хутчэй за ўсё, нейкім генетычным дэфектам. Было вырашана выдаліць адростак хірургічным шляхам. Да аперацыі маці дзяўчынкі хавала тое, што здарылася, ад родных і знаёмых і нават адмаўлялася даць імя сваёй дачцэ.

### Спадзеючыся на мірны зыход

*Павялічваецца колькасць "блакітных касак" з ліку міратворчых сіл ААН у баснійскім горадзе Горажадзе. Сюды прыбылі і 20 расійскіх салдат.*

Тым часам афіцыйныя прадстаўнікі ўлад Германіі заявілі аб гатоўнасці прыняць у ФРГ і забяспечыць пячэннем раненых жыхароў Горажда, якія пацярпелі ў ходзе ваенных дзеянняў.

### Электронны банк у Ватыкане

*Гігант інфарматыкі "Ай-бі-эм" мае намер камп'ютарызаваць Ватыканскую бібліятэку.*

Будзе створаны электронны банк даных і забяспечана магчымасць доступу да найбагацейшых архіваў не толькі для рымлян або жыхароў іншых італьянскіх гарадоў, але практычна для ўсіх, хто пажадае карыстацца новай сістэмай.

Бадай самае каштоўнае ў праекце "Ай-бі-эм" — гэта забеспячэнне адэкватнага графічнага аднаўлення на маніторы камп'ютэра арыгінала рукапісу, кнігі або дакумента.

### Юбілей цюльпанаў

*Цюльпаны, разам з ветранымі млынамі, даўно сталі сімвалам Галандыі. І невыпадкова яе жыхары рыхтуюцца ўрачыста адзначыць 400-годдзе паяўлення цюльпанаў у гэтай краіне.*

Цяпер у Галандыі вырошчваецца прыкладна тры чвэрці цюльпанаў ад агульнай колькасці цудоўных кветак, якімі гандлююць у свеце. У час дзевяцітыднёвага перыяду цвіцення цюльпанаў па ўсёй краіне будуць арганізоўвацца выставы, праводзіцца святочныя дэманстрацыі і фестывалі.

### Нарадзіўся "ў кашулі"

*Трагічным мог стаць выпадак, які здарыўся ў адным з такійскіх раёнаў з 16-гадовым японцам.*

Будаўнічы рабочы займаўся рамонтам на восьмым паверсе, але не ўтрымаўся і паляцеў уніз. Праляцеўшы больш за пятнаццаць метраў, юны "Ікар" трапіў якраз на дах навеса для веласіпедаў і не атрымаў нават ніводнай драпіны. Як гавораць, трэба нарадзіцца "ў кашулі".

### Шакалад з "начынкай"

*З дапамогай звычайнай шакаладнай цукеркі "абчысціў" некалькіх чалавек махляр з Замбіі.*

Падсядаючы да пасажыраў міжгародніх аўтобусаў, ён частаваў нічога не падазраваўшых спадарожнікаў цукеркай, з'еўшы якую, тыя тут жа засыналі. Махляр тым часам спакойна абкрадваў іх і знікаў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

*Дзяжурны па выпуску — Я.ЯСЭПКІН.*

# ЧАРНОБЫЛЬ — НАШЫ

## "Гэта бяда на доўгія гады..."

□ Алесь ЛІСІЦКІ

*Без шкадобы нацерусілі атрутным дажджом і пылам хмары і на аддаленай ад ЧАЭС Жыткаўшчыне. Як і ўсюды, шмат зроблена тут па ліквідацыі вынікаў трагедыі.*

*На жаль, у гэтай важнай справе ёсць нямала праблем і няўвязак, што хвалююць насельніцтва і органы ўлады.*

*Пра гэта разважаюць народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня райсавета А.М.Сцепаненка, начальнік штаба ГА раёна В.І.Партнягін і інспектар райаддзела адукацыі Г. Я. ЛУКАШЭВІЧ.*

***СЦЕПАНЕНКА А.М.***: Радыяцыя пакінула сваю брудную пляму і ў нашым раёне — унікальным кутку Палесся. У зону з перыядычным кантролем трапіла палова населеных пунктаў, у тым ліку і горад. У трох вёсках — Вялікія Сцяблевічы, Буда і Грычынавічы — забруджанасць глебы складае ад 5 да 10 кюры на квадратны кіламетр.

За сродкі Дзяржкамчарнобыля ўзведзена сем пасёлкаў, аб'екты сацкультбыту, добраўпарадкаваны шэраг населеных пунктаў.

Аднак сёння гэтага недастаткова. Вяскоўцы выказваюць справядлівыя папрокі на работу "бытоўкі". Запэўніць іх, што сітуацыя неўзабаве палепшыцца, няма падстаў. Фінансаванне асобных аб'ектаў спынена. Дакладней, менш сродкаў выдзяляецца супраць ранейшага.

Паводле майго глыбокага пераканання, гэта не зусім правільна. Даводзіў тое і з трыбуны парламента.

У развіццё найбольш пацярпеўшых раёнаў па-ранейшаму ўкладваюцца значныя сродкі. Да прыкладу, таго ж Брагінскага. Гэта было б апраўдана, калі б не працягвалася міграцыя карэннага насельніцтва. Замест іх часова на неблагія заробкі прыязджаюць жыхары іншых рэгіёнаў. А ў падзёншчыкаў адносіны да чужой маёмасці вядома якія.

Дык ці правільней было б усё ж укладваць больш сродкаў у тыя раёны, дзе людзі жылі і жывуць, працуюць і прыносяць куды большую аддачу? Тым болей, што гэтаксама будзе і ў далейшым.

Прызнаць гэта — значыць прызнаць неабходнасць унясення карэктываў у чарнобыльскую праграму, паклапаціцца аб працаўладкаванні жыхароў ужо ўзведзеных пасёлкаў.

Балючым пытаннем для насельніцтва стала здача ўласнай жывёлы, накапленні радыенуклідаў у якой перавышаюць дапушчальныя ўзроўні. Раней такую жывёлу спачатку вярталі на чыстыя кармы, а пасля другой праверкі утылізавалі з выплатай яе кошту ў поўным памеры.

Цяпер жа ў падобным выпадку за застрахаваную жывёліну выплачваецца агавораная сума страхоўкі, а пры утылізацыі — ні капейкі. Зразумела, гаспадару ў такім выпадку нічога не застаецца, як прырэзаць яе і выкарыстаць у ежу, каб не аказацца ў пройгрышы. Ці ж гэта нармальна.

З-за нізкай разворанасці, высокай пераўвільготненасці і лясістасці контурнасць палёў у раёне не перавышае 2,9 гектара. Гэтым абумоўлены недахоп культурнай пашы. У канчатковым выніку ўлетку каля 2 працэнтаў малака ўтрымлівае звыш РДУ-92 радыенуклідаў. Праблему можна было б закрыць, калі б не спыніліся пастаўкі болюсаў і солілізунцу з фарыцынам — цэзіязвязваючых рэчываў.

У рэспубліцы створана нямала рознагаліновых радыелагічных цэнтраў і інстытутаў. Тэарэтычныя іх распрацоўкі не выклікаюць сумнення. На жаль, сёння ніхто не займаецца прафілактычна-растлумачальнай работай сярод насельніцтва. Раней, няхай не надта кваліфікаваная, але такая дапамога на месцах была адчувальная. Нездарма большасцю страчана вастрыня ўспрыняцця радыяцыйнай пагрозы і небяспекі.

***ПАРТНЯГІН В.І.***: У штабе ГА на ўліку знаходзіцца 490 перасяленцаў, пераважна з Хойніцкага, Брагінскага і Нараўлянскага, а таксама 925 "ліквідатараў". Таму не можа непакоіць выкананне Закона аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС. Ён жа не працуе або з-за няўвязак з іншымі заканадаўча-нарматыўнымі актамі, або з-за фармалізму і перастрахоўкі асобнай катэгоры выканаўцаў.

Да прыкладу, па сённяшні дзень да нас у штаб па пасведчанні звяртаюцца ўдзельнікі ліквідацыі вынікаў аварыі ў Чарнобылі. А вось пацвярджаючых пярвічных дакументаў падаць не могуць, бо ўжо скончыліся тэрміны іх захавання. Карацей кажучы, яны ўжо знішчаны. Як у такім выпадку аднавіць справядлівасць?

У сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах для выплаты павышанай стыпендыі чамусьці двойчы на год ад іх выхаванцаў патрабуюць даведкі аб пражыванні на забруджанай тэрыторыі. А гэта нямала — больш як тысяча чалавек. Таму процьму часу даводзіцца займацца фактычна нікому не патрэбнай паперавытворчасцю, бо стандартных бланкаў дагэтуль няма.

Кіраўнікі ўсіх прадпрыемстваў і арганізацый даўно ведаюць, што тым, хто пражывае ў чыстай мясцовасці, выплачваецца вызначаная ўрадам дапамога за час працы ў забруджанай мясцовасці. Аднак дакладнага выканання гэтага патрабавання ад бухгалтарскіх работнікаў не дамагаюцца, чым выклікаюць незадаволенасць падначаленых. Патрэбны падрабязныя "ўказкі" збоку. Інакш працаваць не можам...

***ЛУКАШЭВІЧ Г.Я.***: Апошнім часам вядуцца размовы аб магчымым пераглядзе канцэпцыі пражывання насельніцтва ў зоне перыядычнага кантролю. Тады пад увагу будзе ўзяты ўжо быццам не паказчык забруджанасці глебы радыенуклідамі, а ўзровень іх накаплення чалавекам на працягу года. Па-першае, так нібыта рэкамендуюць спецыялісты МАГАТЭ. А па-другое, маўляў, так даўно ўжо прынята ва ўсім свеце.

Але ці падыходзіць гэта да жыхароў Беларусі, дзе зусім іншыя сацыяльна-бытавыя ўмовы, іншы ўзровень санітарна-гігіенічнай культуры і харчавання? Наўрад.

Менавіта не без уплыву гэтых фактараў, як сведчаць вынікі праверак, накапленні не маюць ніякай акрэсленай сувязі з забруджанасцю глебы і захворваннем людзей. Тут, як кажуць, або савой аб пень, або пнём па саве. У любым выпадку сумны вынік навідавоку: сярод школьнікаў у апошнія гады заўважаецца значны прырост адхіленняў у здароўі.

Калі ж прыняць вышэйпамянёную канцэпцыю ў новым варыянце, значыць, пазбавіць дзяцей у зоне ад 1 да 5 кюры на квадратны кіламетр бясплатнага харчавання і права на аздараўленне ў чыстай мясцовасці. Тады пацерпіць кожная сям'я, бюджэт якой і без таго змізарнеў ад інфляцыі і росту цэн. Бацькі проста не змогуць знайсці сродкаў на харчаванне дзяцей. Сёння ж яго штодня атрымліваюць звыш 4450 навучэнцаў 14 школ раёна, у сярэднім на суму больш як 1300 рублёў кожны. Не сакрэт таксама, што меню ў сталоўцы больш разнастайнае, чым стол у многіх сем'ях.

Таму, як жанчына і педагог, лічу, што такі крок з боку ўрада можа прынесці толькі крыўду і без таго на ўсё жыццё паўкрыўджаным людзям. Трэба памятаць, што вынікі на ЧАЭС цалкам ліквідаваны будуць не цяперашнім і не наступным пакаленнямі. На гэта спатрэбіцца куды больш часу. Значыць, усё патрэбна рабіць з далёкім разлікам наперад, з клопатам пра здароўе ўсіх будучых нашых нашчадкаў.

## Легенда бабулі Соф'і

□ Аляксандр РОГАЛЕЎ

*Мы з калегамі запісалі яе ў час паездак па Кармянскім раёне ад ураджэнкі вёскі Залатаміно С.М.Давыдзенка (пасля ліквідацыі гэтага пасялення Соф'я Мікітаўна жыве ў Карме). Бабуля Соф'я, дарэчы, расказала нам шмат чаго пра мінулае як сваёй вёскі, так і ўсёй ваколіцы (ёсць жа цікавыя людзі!). Што ж датычыць нагаданай легенды, то сама бабуля сказала пра яе так: "У дзяцінстве гэта ўяўлялася мне казкай. А цяпер... Нават і не ведаю. Але ж слухайце і разважайце самі".*

Разважаць сапраўды ёсць над чым. Вось змест незвычайнага апавядання бабулі Соф'і (ён поўнасцю захоўвае лексіку і стыль расказчыцы, якія адлюстроўваюць, дарэчы, асаблівасці дыялекту).

"Калі мы ламалі траву і з яе рабілі венік, спыталі ў таткі, як гэтую траву завуць. Ён адказаў, што гэта чарнобыль, і мы спыталі, чаму яе так завуць; то татка нам расказаў — можа быць і быль. Пачынаў так: у якім-та царстве, у якім-та гасударстве, гэта было вельмі даўно, людзі хацелі быць разумней усіх і пабудавалі вялікі корпус, і закрылі туды вялікую сілу невядомую, і яна там пачала бушаваць, і вырвалася на свабоду, спаліла ўсё па ўсёй краіне, пазабівала людзей і ўсё жывое, і доўга тады нікому нельга было з'яўляцца жывому, і за гэты час там перамяніліся лясы, дрэвы і звяры, і трава, і калі першыя людзі зайшлі на тую зямлю, то ўбачылі, што і зямля перамянілася, багата стала пяску, і па той зямлі вырасла яшчэ нікім не віданая трава, і яны гэту траву назвалі чарнобыль і сказалі: яе нада рассяліць па ўсяму свету, штоб людзі называлі і памяталі аб такой катастрофе і штоб яшчэ не пабудавалі што-небудзь падобнае".

У першы момант пасля пачутага мы не сталі пярэчыць бабулі, хоць і сумняваліся ў тым, што такая легенда сапраўды была пачута ёю ў дзяцінстве. Ды і потым, скажам шчыра, сумненні не пакідалі нас. Аднак і не даваяраць старой жанчыне, якая шчыра апавядала нам пра былое, як быццам не было падстаў. Толькі праз некаторы час пачалося, скажам так, асэнсаванне сюжэта, пачалі з'явіліся пэўныя думкі, якімі, лічу, ёсць сэнс падзяліцца, хоць не выключана, што той-сёй успрыме іх як яшчэ адну казку. І тым не менш, чарнобыльская легенда — гэта твор вуснай народнай творчасці, і ў гэтай якасці яна (легенда) павінна мець тлумачэнне.

Вось наша ўласная версія.

Пачуты ад бабулі Соф'і сюжэт, несумненна, калі гаварыць "па-навуковаму", актуалізаваўся пасля 1986 года, усплыў у памяці расказчыцы і атрымаў шэраг новых дэталяў. Так, відавочнымі новымі ўстаўкамі з'яўляюцца словы-паняцці "вялікі корпус" і "катастрофа", якія ўжыла С.М.Давыдзенка. Але ж сярод гэтых новаўвядзенняў выразна праглядвае і даўняя, традыцыйная нават па сваім зачыне аснова легенды-казкі ці легенды-былі.

Кульмінацыяй сюжэта неабходна лічыць пакаранне людзей за пэўныя грахі. Вынік жа свавольства людзей і вынік божай кары — змяненне самога ландшафту, флоры і фауны і — самае дзіўнае — з'яўленне дзікай, невядомай дагэтуль травы — "чарнобыль". Трава гэтая, як бачым, асэнсоўваецца як пэўны, самы галоўны сімвал тых наступстваў, якія чакаюць тых, хто парушае ўстаноўлены парадак і пачынае займацца тым, што не дадзена чалавеку ад самага яго пачатку.

Калі разважаць такім чынам, можна знайсці выразную аналогію нагаданай легендзе ў "Апакаліпсісе" Іаана Багаслова (у перакладзе з грэчаскай мовы "апакаліпсіс" — гэта "адкрыццё", па-руску — "откровение"), апошнім з сачыненняў, уключаных у Новы запавет.

У хрысціянстве, як і ў большасці іншых рэлігій свету, распрацоўваецца сюжэт Страшнага Суда, Канца Свету, нейкай касмічнай катастрофы, пасля якой свет зноў адраджаецца ўжо ачышчаным ад грахоў (у "чарнобыльскай" легендзе — "яе, траву, трэба рассяліць па ўсяму свету, штоб людзі называлі і памяталі...", гэта значыць, памяталі аб тым, чаго нельга рабіць і што загубіла іх папярэднікаў).

Згодна з "Апакаліпсісам" Іаана Багаслова, Канец Свету настане пасля Другога Прышэсця Збавіцеля, які пераможа сілы зла і здзейсніць Страшны Суд, які будзе суправаджацца сусветнай катастрофай. Даследчыкі гэтай тэмы адзначаюць, што Іаан Багаслоў у сваім "Адкрыцці" ("Откровении") абапіраўся на тую апакаліпсічную літаратуру, якая мелася ў той час, у прыватнасці, на старазапаветныя тэксты. І тым не менш, у "Апакаліпсісе" прадстаўлены больш падрабязны, дэталёвы, чым у Старым Запавеце, малюнак агульнай катастрофы, паколькі аўтар, які, як лічаць, склаў свой твор дзесьці ў 90-я гады новай эры і выкарыстаў не толькі папярэднія апавяданні-легенды, але і сведчанні відавочцаў аб параўнальна нядаўніх да таго часу экалагічных катаклізмах паблізу Чорнага мора. (гл.Барашков А.И. Будет ли конец света? — М.: Знание, 1991, № 10).

Сімволіка "Апакаліпсіса" даволі складаная і ў многім загадкавая. Нас жа цікавіць толькі тая частка твора, якая пэўным чынам суадносіцца з нагаданай вышэй "чарнобыльскай" легендай. Пачынаецца сусветная катастрофа з моцнага землетрасення. Потым з'яўляюцца "папераменна сем анёлаў, якія трубяць і абвяшчаюць аб тых ці іншых з'явах — бедствах.

"...Трэці анёл затрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, якая гарэла, нібы свяцільня, і ўпала на трэцюю частку рэк і на крыніцы вод. Імя гэтай зорцы — палын; і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што сталі яны горкія".

Не будзем займацца высвятленнем таго, якія рэальныя ці магчымыя катаклізмы адпавядаюць прароцтвам "Апакаліпсіса". Па-першае, гэта справа геафізікаў, па-другое, сімволіку Іаана Багаслова, на наш погляд, няма сэнсу канкрэтызаваць і суадносіць амаль што ў дэталях з той ці іншай прыроднай ці штучнай з'явай — ад падзення каметзорак і наступстваў землятрусу да атамнага выбуху (сёй-той з аўтараў схільны "абвінавачваць" у чарнобыльскай трагедыі камету Галея, якая ў 1986 годзе падышла да Зямлі). Сімволіка на тое і сімволіка, каб не займацца зусім непатрэбнай і залішняй яе канкрэтызацыяй.

Звернемся лепш да несумненных паралелей паміж пэўнай часткай "Апакаліпсіса" і "чарнобыльскай" легендай, пераказанай бабуляй Соф'яй. І перш за ўсё зададзім сабе наступнае пытанне: што з пункту гледжання лінгвістыкі азначае паняцце "зорка палын"? Думаецца, слова "палын" часам разумеецца занадта літаральна — як агульнае абазначэнне травы, класа раслін, які вядомы пад лацінскім найменнем "артэмісія". Але пры такім разуменні ўзнікае відавочная недарэчнасць: зорка не можа быць... палыном-травой. Праўда, можна дапусціць, што "зорка-палын" — гэта алегарычнае абазначэнне, якое ўзнікла на той падставе, што пасля падзення гэтай зоркі воды сталі горкія, як палын. Тым не менш, напрошваецца іншае тлумачэнне.

"Зорка-палын" — гэта літаральна "палаючая зорка", паколькі слова "палын" суадносіцца з дзеясловам "палаць" у значэнні "гарэць", "паліць", "спальваць". Пры такім тлумачэнні "зорку-палын" сапраўды ёсць сэнс суадносіць з каметай. "Палаючая зорка" ўпала "на крыніцы вод", і воды таксама зрабіліся палыном, гэта значыць, былі ахоплены агнём (пры рэзкіх устрэсваннях вод на паверхню ўсплываюць гаручыя газы — метан і серавадарод, якія пры сутыкненні з "палаючай зоркай" імгненна ўспыхваюць, і ўзнікае велізарны вогненны смерч). Што ж датычыць "горкай вады", то пры гарэнні серавадароду ўтвараецца двухвокіс серы, які пры злучэнні з вадой у сваю чаргу ўтварае серную кіслату. Воды, атручаныя сернай кіслатой, становяцца горкімі, як палын.

У якой жа сувязі з усім гэтым знаходзіцца трава палын — "артэмісія"? Сувязь тут не столькі прамая, колькі апасродкаваная, нават міфалагізаваная. Трава палын — "артэмісія" мае горкі смак. Сама назва палын (заўважым, найменне менавіта расліны) мае сувязь з характэрным для расліны колерам (палын мае густое белаватае ці шэраватае апушэнне; параўнайце, напрыклад, словы палавы — "светла-жоўты", "бляклы", "шэры", "бледны"). Але ж горкі смак (жывёла, дарэчы, не бярэ палын) і супадзенне наймення расліны па сугучны з выразамі "зорка-палын" і "горкая вада-палын" з дастаткова распаўсюджанага і вядомага сюжэта Новага Запавету аб Канцы Свету, які мае вельмі даўнія вытокі, абумовілі ў сукупнасці пэўную "міфалагізацыю" самой расліны артэмісіі. Палын-трава стала ўспрымацца як сімвал горкай расплаты, якая чакае людзей-грэшнікаў, адступнікаў ад устанаўленняў Бога. Цікава, што сімвал палыну мае паралелі яшчэ ў Старым Запавеце: Бог пагражае свайму народу праз Ярамію, што накорміць іх палыном і напоіць вадой з жоўцю.

Такім чынам, запісаная ў Кармянскім раёне "чарнобыльская" легенда, дзе чарнобыль, ці палын-трава з'яўляецца самым галоўным атрыбутам, вакол якога і складаецца сюжэт, без сумнення, узыходзіць да сівой даўніны (за выключэннем, вядома, тых новаўвядзенняў, аб якіх ішла гаворка вышэй).

Дарэчы, найменне травы чарнобыль, чарнабыльнік (палын звычайны ці "артэмісія вульгарыс") утварылася ў выніку спалучэння дзвюх асноў: чорны і быль (трава); параўнайце руска-царкоўнаславянскае слова быль — "трава" і выраз "быллём парасло"). Такім чынам, чарнобыль — гэта "чорная, цёмная трава" (сцябло ў артэмісіі вульгарыс мае буравата-фіялетавае адценне).

А што ж назва сумна вядомага горада Чарнобыля? Аб чым расказвае яна? Горад Чарнобыль у Кіеўскай зямлі на рацэ Прыпяць упершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1193 годам. Польскі даследчык С.Роспанд лічыць, што назва горада ўтварылася ад асабовага імя Чарнабыл, з якім ён параўноўвае (у структурным плане) чэшскія асабовыя імёны Радабыл і Драгабыл. Але ўсё ж больш дакладнай бачыцца іншая версія, па якой у назве "Чарнабыл" Чарнобыль якраз і адлюстравалася ўсходнеславянскае народнае абазначэнне палыну звычайнага — чарнабыльніку (гл.Нерознак В.П. Названия древнерусских городов. — М., 1983).

Усё ж, на маю думку, ёсць нешта Вышэйшае, ад Бога, і ў гэтай назве, і ў легендзе, якая захавалася на Кармяншчыне. Прынамсі, ніякая самая лагічная сістэма доказаў не можа растлумачыць, чаму так фатальна-сімвалічна супалі частка прароцтва Іаана Багаслова і атамная катастрофа, з аднаго боку, назва месца трагедыі і звязаны з ёй (назвай) матыў-перасцярога старажытнай легенды — з другога. Не, відаць зусім не казку расказала нам бабуля Соф'я Мікітаўна Давыдзенка.

**Гомель.**

## Свет — без ядзернай пагрозы

□ Вера ПАЛЯКОВА

Надышоў красавік, 26-ы дзень якога, што ніяк не адзначаны на календары, яшчэ доўгія гады будзе мець чорны колер — колер трагедыі. Восем гадоў слова "Чарнобыль" канцэнтруе ў сабе боль тысяч людзей. Аднак, у той час, калі сусветная грамадскасць штогод усё мацней усведамляе велічыню катастрофы ў Чарнобылі, на Беларусі мы неяк прыцярпеліся, маўляў, не такі страшны чорт, як яго малююць. Забыліся, што ў раёнах, забруджаных радыяцыяй, працягваюць жыць 1896000 чалавек, што па-ранейшаму захоўваецца ядзерная пагроза не толькі Беларусі, акружанай з усіх бакоў атамнымі станцыямі былых суайчыннікаў, але і ўсяму свету. Менавіта салідарнасць з ахвярамі чарнобыльскай трагедыі, шчырая трывога за будучыню нашых дзяцей зрабілі неабходным правядзенне II Міжнароднага кангрэса "Свет пасля Чарнобыля", што працаваў у Мінску з 18 па 22 красавіка. У форуме, арганізаваным Беларускім дабрачынным фондам "Дзецям Чарнобыля" ў супрацоўніцтве з арганізацыямі і грамадзянскімі ініцыятывамі Рэспублікі Беларусь, СНД, Еўропы, Азіі і Амерыкі, прынялі ўдзел 158 прадстаўнікоў Германіі, ЗША, Канады, Японіі, Чэхіі, Аўстрыі. Усяго — 14 краін.

Адзін з трох галоўных накірункаў працы кангрэса — сканцэнтраваць медыка-біялагічную інфармацыю наступстваў аварыі, бо сёння, як сказаў у дакладзе народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, дырэктар Інстытута радыебіялогіі Акадэміі навук, акадэмік Я.Ф.Канапля, ні ў каго не выклікае сумнення значнае павелічэнне захворванняў насельніцтва, прама звязаных з выбухам васьмігадовай даўнасці. Асабліва трывожыць няўмольны рост колькасці дзяцей, што хварэюць на рак шчытападобнай залозы. Усё часцей выяўляюцца парушэнні жыццядзейнасці найбольш важных сістэм арганізма, прыроджаныя недахопы развіцця, парушэнні нават на храмасомным, генным узроўнях. Устойліва паднімаецца крывая захворванняў дзіцячага насельніцтва ўсёй рэспублікі, цяжарных жанчын, колькасць паталогій. Расце і смяротнасць немаўлят.

Відавочна, што наша рэспубліка адна не здолее абараніць сваю будучыню. Гуманітарная дапамога насельніцтву забруджаных радыенуклідамі тэрыторый і сёння застаецца актуальнай. Фонд "Дзецям Чарнобыля" мае сёння самы вялікі вопыт у ажыццяўленні міжнародных гуманітарных праграм. Таму на кангрэсе магчыма было падвесці вынікі пяцігадовага супрацоўніцтва, акрэсліць і ягоныя ўрокі. Неаднаразова ў выступленнях гучала думка, што гуманітарная дапамога не заўсёды мае станоўчы эфект. Факт, што некаторыя жыхары забруджаных раёнаў не жадаюць перасяляцца, бо ў такім выпадку часта страчваюць магчымасць адправіць сваіх дзяцей на адпачынак за мяжу. З аднаго боку, зразумела, чаму пацярпеўшыя, знаходзячыся ў стрэсавым стане, што цягнецца не першы год, адчуваючы сябе пакінутымі з радыяцыяй сам-насам, пасіўна чакаюць дапамогі ад замежных гасцей. Але як было падкрэслена на заключнай прэс-канферэнцыі, кангрэс вельмі ясна паставіў пытанне аб актывізацыі псіхалагічнай дапамогі пацярпеўшаму насельніцтву. Не менш важна перанесці разавыя мерапрыемствы прыватнай ініцыятывы замежных грамадскіх суполак на ўзровень міждзяржаўных адносін у ажыццяўленні доўгатэрміновых праграм супрацоўніцтва.

І ўсё ж, самая галоўная тэма кангрэса — свет без ядзернай пагрозы чалавецтву, якая для народа Беларусі найбольш важная. У пераходны перыяд, калі ідзе спад вытворчасці, "вісіць" велізарная запазычанасць Расіі за энерганосьбіты, усё мацней гучаць словы аб будаўніцтве на тэрыторыі нашай рэспублікі атамных электрастанцый. Імкнучыся мець энергетычны суверэнітэт шмат спецыялістаў сцвярджаюць, што альтэрнатывы атамнай энергетыцы быццам няма. Аднак удзельнікі кангрэса гавораць, што варыянты выхаду з крызісу без будаўніцтва АЭС у Беларусі ёсць. Галоўны аргумент — таннасць атамнай энергіі — не выглядае пераканаўчым. Трэба ўлічваць, што мы атрымаем яе толькі праз 10—15 гадоў і адначасова набудзем моцную залежнасць ад пастаўшчыкоў паліва, камплектуючых рэактара, запчастак. Няма ў Беларусі і вопыту падрыхтоўкі адпаведных кадраў. Да таго ж, зямля Беларусі і так нашпігавана радыяцыяй, каб яшчэ рабіць у ёй радыеактыўныя могілкі. Старшыня парламенцкай камісіі па экалогіі і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў, акадэмік Міжнароднай акадэміі экалогіі прафесар Б.П.Савіцкі бачыць вырашэнне энергетычных і разам з імі іншых эканамічных праблем Беларусі перш-наперш у мадэрнізацыі маральна састарэлай энергаёмістай вытворчасці, у арганізацыі шырокамаштабнай дзяржаўнай праграмы эканоміі электраэнергіі ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі і жыццязабеспячэння. На яго думку, сродкі, укладзеныя ў атамную энергетыку, — стымуляванне далейшага тэхналагічнага адставання эканомікі краіны. Барыс Парфёнавіч падкрэсліў, што вынікі кангрэса пераканалі: трэба рыхтаваць адпаведныя законы аб развіцці на Беларусі малой энергетыкі, выкарыстанні нетрадыцыйных крыніц электраэнергіі. Канешне, мадэрнізацыя эканомікі, пабудова ветра- і геліяўстановак таксама патрабуюць немалых капіталаўкладанняў. Аднак яны цалкам гарантуюць бяспеку насельніцтву рэспублікі. Як сказаў С.С.Шушкевіч, што прысутнічаў на заключнай прэс-канферэнцыі, ніякіх канкрэтных праграм развіцця атамнай энергетыкі Беларусі пакуль няма, аднак у любым выпадку пытанне аб будаўніцтве АЭС вырашаць без рэферэндуму нельга.

У заключэнне сваёй працы ўдзельнікі II Міжнароднага кангрэса "Свет пасля Чарнобыля", прынялі зварот да ўрада Украіны з патрабаваннем спыніць Чарнобыльскую АЭС, прывітанне антыатамнага маршу-пратэсту, які пачнецца 26 красавіка ў Францыі і заклік да грамадскасці свету, бо пакуль ёсць атамныя электрастанцыі, пагроза другога Чарнобыля будзе існаваць.




Шчыльнасць забруджвання на цэзій-137 (Ku/км²)

